ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 42 (1536) ГОД XXX БЕЛАСТОК 20 КАСТРЫЧНІКА 1985 г. ЦАНА 10 зл.



Вуліцу Кляшчэлеўскую мелі адрамантаваць ў II квартале г.г. Людзі разабралі брук і чакаюць.

## Вяжацца ўнізе—рвецца наверсе

Антымізм стаяў у пачатку дарогі некаторых вялікіх арлянскіх ініцыятыў.

Першая — пабудова школы ў Орлі. Колькі ж то ўжо гадоў ідзе ўпартая барацьба за пабудову школы? Пачалося недзе дзесяць, а мо і больш гадоў таму, з прыходам у арлянскую школу маладога дырэктара, ураджэнца Орлі. І ўжо, здавалася, са школай усё ўладзілася. Згодна з апошнімі, на высокім узроўні, рашэннямі пабудова мелася распачацца ў 1986 годзе. А вось у гмінным камітэце ПАРП у Орлі атрымліваю сумную вестку, што на 1986 г. школу ў Орлі не памясцілі ў плане. У плане на гэты год памясцілі школу ў Драгічыне, дзе няма выканаўцы-будаўніка, а не памясцілі Орлю, дзе ёсць выканаўца (Прадпрыемства камунальнага будаўніцтва ў Бельску), дзе са складчын ад людзей сабралі 1 мільён злотых, дзе абавязаліся сарганізаваць уласную брыгаду спецыялістаў-будаўнікоў, дзе ёсць ахвотныя ўжо капаць фундамент.

І выглядае так, што ўлады забаўляюцца сабе шматгадовымі, абгрунтаванымі, жыццёва пільнымі і патрэбнымі стараннямі людзей і іх нервамі. Зусім не здзіўляе мяне Іван Кубаеўскі, які, гаворачы аб гэтым, вельмі нервуецца.

Падобна і з асяродкам здароўя ў Орлі. Таксама меў быць у плане на 1986 год, а няма. А Орля гэта адзіная гміна ў бельскім раёне, дзе няма сапраўднага асяродка здароўя. Затое па зборы грошай на фонд здароўя Орля стаіць на першым месцы ў ваяводстве. Аказваецца, аднак, гэта ніякі аргумент для ўлад. Што яны думаюць — невядома. А можа ўвогуле не думаюць. Бо з лагічным і паслядоўным думаннем у нашым планаванні і выкананні адны прабелы.

Яшчэ керамічная фабрыка. Усе рацыянальныя гаспадарчыя прадпасылкі сведчаць за пабудову такой фабрыкі ў Орлі. Ёсць тут багатыя паклады высакаякаснай гліны — адной з найлепшых у Польшчы. Гэтая інвестыцыя набрала агульнадзяржаўнага значэння. Былі праведзены ўступныя працы, укладзены капіталы. Усе згадзіліся і назначылі тэрмін: пачатак пабудовы фабрыкі — 1987 год, за-

(Працяг на стар. 3)



Фота М. Гайдука

Званкі з былога.
Цёплы след усмешкі
да падваконня і — далей, у дзень,
у дождж, у паднябесе,
дзе ў застрэшку
гняздоўі ладзяць чарада надзей.
Званкі з былога...
Цёплы ўсплёск пяшчоты
змывае горыч з вуснаў,
з дрогкіх слоў.
І мала слоў! Ніводнага — на потым.
Ніводнае не загучыць ізноў.
Усім распарадзілася разлука.
Дождж. Музыка яго. Чужы пакой.
Званкі. Мая аголеная мука,
прыкрытая ад іх тваёй рукой.
Дождж...

Таіса Бондар




### ЯК ЖЫЦЬ З „НІВАЙ"?

Дзіўнае пытанне, праўда?! Калі хто спалохаўся, хачу супакоіць: застанемся з „Нівай", будзь яна ў той ці іншай форме. Яна ўжо так урасла ў наш краявід, што яе адсутнасць адчулі б усе. А таму, хто яе ліквідаваў бы, „на суха" такое не прайшло б.

Я пытаю, што мы з „Нівай" робім, калі яе ўжо прачытаем ад дошкі да дошкі, калі вычытаем нават праграму тэлебачання? Адны адкладаюць яе, каб мець чым дровы падпаліць, другія на макулатуру аддаюць, яшчэ іншыя, хоць гэта не гігіенічна, загортваюць у яе сала або каўбасу.

Я раю, асабліва пастаянным чытачам „Нівы", складаць прачытаныя нумары ў гадавікі. Адзін нумар „Нівы", ды і кожнага тыднёвіка, жыве адзін тыдзень. Потым яго змест, думкі, вобразы адлятаюць, а на іх месца прыходзяць новыя. І так круціцца ад студзеня да снежня. Калі так падыходзіць да „Нівы", можа выдацца, што яна са сваімі кароценькімі артыкуламі не надта глыбокая па зместу. Бо як у кароценькім артыкуле паказаць глыбіню думак?

А вось, калі мне трэба было падрыхтаваць лекцыю па гісторыі Беларусі, вельмі прыдалася „Ніва", якую я пакуль што збіраю і сшываю нумар за нумарам у гадавікі. Паперы ўсё больш у хаце, але жонка пакуль яшчэ не бурчыць, што патрэбнае месца займае макулатура. І калі так пры нагодзе працы над лекцыяй прагляну ў я гадавікі „Нівы", толькі тады выйшла на яву яе „невычэрпная крыніца ведаў і вестак аб нас саміх", як кажа Вера Валкавыцкая.

Цыкл паўставання „Нівы" доўгі. Некаторыя адгалоскі адносяцца да артыкулаў, якія друкаваліся нават некалькі месяцаў назад. І таму толькі ў гадавіку можна па-сапраўднаму сачыць за дыскусіяй.

Яшчэ хачу звярнуць увагу на адзін факт. „Ніва" з'яўляецца адзіным беларускім часопісам у Польшчы. І то не звычайным сабе часопісам, але і часопісам літаратурным, часопісам для дзяцей, часопісам гумару, крыніцай ведаў аб прыродзе і фальклоры, Астронам і т.п. А раз з'яўляецца яна адзіным, значыць трэба выкарыстоўваць гэтую адзіную крыніцу ў працы беларускіх гурткоў. Некалі напісаў я ў адгалосках, як весці працу гуртка, чым і кім займацца. „Ніва" якраз з'яўляецца

(Працяг на стар. 4)

**Замалёўкі з жыцця**

# ПАЕЗДКА Ў ГАЙНАЎКУ

Маламу не хацелася спакойна сядзець на адным месцы і ён круціўся, шчабятаў, прабаваў звярнуць на сябе ўвагу незнаёмай дзяўчыны, але тая сядзела нерухома і па-ранейшаму глядзела ў акно. Так мы даехалі да станцыі Гнілец. У Гнільцы ўвайшла ў наша купэ мая сяброўка з ліцэйскіх гадоў. Прывіталася са мною, і пачалі мы гутарыць. Аказалася, вучыцца яна ў Медыцынскім студыюме ў Мінску Мазавецкім. Праз год будзе медсястрой. Сёння едзе ў Гайнаўку, каб зрабіць патрэбныя медыцынскія агляды. Так разгаварыліся, што і не заўважылі, калі прыехалі ў Гайнаўку. Было палавіна другой і ісці ў клуб БГКТ было яшчэ рана, бо юрыст там прымае ад другой.

Калі ўжо прыйшла я на вуліцу Вызвалення, проста разгубілася і не ведала, дзе знаходзіцца клуб БГКТ. Нідзе ніякага надпісу няма. Рашыла пытацца ў людзей. Спачатку запытала ў маладой пары — хлопец і дзяўчына ішлі, трымаючыся за рукі. Яны мне адказалі, што нічога пра такі клуб не ведаюць, бо яны турысты. Пасля пыталася ў старэйшай жанчыны, але яна таксама нічога не ведала. Нават глянула на мяне так, як бы я сказала касмічнае глупства. Рашыла я паспрабаваць шчасця яшчэ раз і спыталася ў старэйшага мужчыны. Той сказаў, што клуб БГКТ зараз знаходзіцца ў Доме настаўніка.

Увайшла я ў Дом настаўніка, ды не туды, дзе трэба. Урэшце чалавек, які стаяў у гардэробе, растлумачыў, што ў клуб БГКТ трэба ўваходзіць з другога боку.

Даведаўшыся ўсё, што было мне патрэбна, я шчыра падзякавала юрысту за параду, узяла свае клункі і выйшла з клуба. Адразу пайшла на вакзал. Да цягніка чакаць давялося доўга. Недзе каля шостай гадзіны ўвайшла ў пачакальню невысокая бландзінка з сынам. Твар быццам знаёмы, але адкуль — не магла дадумацца. Сынок мой падбег да хлопчыка і пачаў з ім гуляць. Тая жанчына пачаставала яго піражным. Пасля запыталася, куды я еду, бо яна з сынам — у Семяноўку. — А адкуль вы і да каго едзеце? — Еду з Вроцлава да свякрухі. Вязу сына на канікулы, няхай хоць адзін месяц пабудзе ў бабулі. — Мой Божа, — войкнула я, — а я ж вас і не пазнала...

Так размаўляючы, дасядзелі мы да сёмай гадзіны, а потым пайшлі ў цягнік. Тут таксама гаварылі аб усім. Яна ганіла цяперашніх дзяцей, а я ў некаторых выпадках была на яе баку. Так мы даехалі ў Семяноўку. Дадому давялося б зноў ісці пехатой, але памагла мама сяброўкі. Яна прыехала забіраць дачку і адразу садавіла на воз усіх, каму было па дарозе. Яна і на мяне крыкнула: — Хадзі, падвязу! — Я паклікала яшчэ бландзінку з сынам, і мы ледзь памясціліся на возе. Конь увесь час бег. Замужняя сястра маёй сябра з пачатковай школы пачала расказваць, як яна была ў гасцях у сваёй малодшай сяброўкі. Пасля пачала гаварыць, што на вёсцы лепш жыць, чым у горадзе. На вёсцы свае яйкі, мяса, малако, бульба, а ў горадзе за ўсё трэба плаціць. Вось, напрыклад, на снеданне купіш трохі сыру, масла, хлеба і аддасі многа грошай, а не пад'ясі. — Божа мой, якія свае яйкі? — не вытрывала мама сяброўкі, — вось гэты год мне не пашанцавала і засталося ўсяго пяць курак. І яек не было. Трэба было ў людзей купляць. — Ат, — махнула рукой маладая жанчына, — вы, цётка, нічога не гаварыце, тут бульбы згатуеце, салату смятанай пальеце — і яда гатова, не тое, што ў горадзе.

Па дарозе забралі яшчэ дзвюх дзяўчат, якія прыехалі да дзядоў на канікулы. Самі беларускі, а гавораць выключна папольску і невядома, ці нашую гутарку ўвогуле разумеюць. Вось што, мільганула мне ў галаве, пагражае беларусам праз некалькі дзесяткаў год! Ці ўдасца БГКТ выратаваць тое, што яшчэ ёсць беларускае? З такімі маімі думкамі даехала я да хаты Грыцаў, дзе выйшла. Да хаты было блізка, і мы хутка дайшлі. У хаце мама накінулася на мяне. — Ну і скрытыкавалі цябе ў газеце, што лепей не трэба. Бо і пэўна, Бога чапляешся, хто гэта бачыў?!

Калі малы заснуў, узяла я новы нумар „Нівы" і давай чытаць. Ну, вось, пан Панфілюк палічыў мяне падлізай і ідалапаклонніцай. Нягледзячы, што ўжо вельмі позна, я пачала пісаць адказ. Спаць легла зусім позна. Перад сном рашыла, што адгэтуль будзе так: калі яшчэ хто напіша падобную рэпліку, як М. Панфілюк, то ўвогуле пераймацца не буду.

**Аўрора**

# Вяжацца ўнізе—рвецца наверсе

(Працяг са стар. 1)

канчэнне — 1989 год. Вясною г.г. у пісьме беластоцкі ваявода пісаў ў гміну:

„Potwierdzam celowość budowy zakładu ceramicznego o zdolności produkcyjnej 28 mln j. ścien. i 2,5 mln kafli.

Wystąpiłem do Ministra Budownictwa i PMB o uznanie powyższego zadania jako szczególnie potrzebnego na zabezpieczenie potrzeb województwa i o podjęcie decyzji o rozpoczęciu budowy w 1987 ... Pragnę na koniec wyrazić przekonanie, że biorąc pod uwagę dużą aktywność społeczeństwa Orli oraz ich organów przedstawicielskich i podejmowane działanie przez Urząd Wojewódzki, spowoduje w rezultacie, że nastąpi rozpoczęcie budowy zakładu ceramiki budowlanej w Orli".

І вось у самым пачатку 1985 года Беластоцкае прадпрыемства будаўнічай керамікі ў Беластоку, прыпаднесла Орлі сюрпрыз:

„Określony w pierwotnych planach termin realizacji inwestycji został przesunięty na 1990 r., na posiedzeniu Rady Zrzeszenia Przedsiębiorstwa Przemysłu Ceramiki Budowlanej i Silikatów, które odbyło się w dniu 12.12.1984 roku".

Такім чынам, адным махам Орлю выкінулі зноў за нулявы пункт. А будаўнічых матэрыялаў усё няма і няма. І на Беласточчыне з гэтым найгорш у краіне. Выступае прытым бесталковасць: гліну для арлянскай кафлярні возяць з-пад Юхнова. А людзі ўсё бачаць і вантробы ў іх пераварочваюцца ад пытання, на якое не атрымліваюць адказу: дзе які-небудзь парадак і гаспадарскі спрыт? Чаму ўлады аж так не ўмеюць выкарыстаць ініцыятыву нізоў? Адкуль бяздзейнасць наверсе, калі бурліць унізе?

Неаператыўнасць відаць і на вул. Кляшчэлеўскай. Меў тут распачацца рамонт вуліцы (Раён публічных дарог меў гэта рабіць). Людзі самі, грамадскім чынам разбурылі вуліцу, разабралі брук, бо так рыхтаваліся да далейшай працы. І так засталося, што відаць на нашым здымку.

Іншы прыклад — гэта арлянская сінагога, помнік культуры І класа, які было вырашана адрамантаваць на Дом культуры. Тут нават ужо пачалася праца Брыгада пабудавала за 4 мільёны злотых сацыяльны будынак, неабходны ў далейшых працах. Мастакі з Торуня забяспечылі вельмі каштоўную паліхромію унутры сінагогі. І... наступіў перапынак. Гавораць, няма грошай на далейшую працу ў генеральнага кансерватара помнікаў культуры і гісторыі.

А людзі безупынна на ўсіх перадвыбарчых сходах пытаюцца пра гмінныя справы. Глядзяць на ўсё і пытаюць у гмінных уладаў і ва ўсіх іншых, ці так павінна выглядаць сацыялістычнае планаванне?



Арлянская сінагога — будучы Дом культуры, выгляд з жніўня 1985.

А цяпер крыху весялей. Хоць сапраўдны Дом культуры яшчэ не хутка будзе ў Орлі, трэба аднак сказаць, што праца культурная ідзе. І то ў найбольш традыцыйнай для Орлі форме — у хоры. Былі часы арлянскага хору лепшыя і горшыя, але галасы не змоўклі ніколі, праз усе 40 пасляваенных гадоў. Такая яна доўгая і багатая арлянская традыцыя. Як выказаўся кіраўнік ГОКу Саша Валкавыцкі: „З узлётамі і ўпадкамі, але гэта ўсё той самы хор, ад вайны і да сёння".

Аляксандр Валкавыцкі іграе хору на акардэоне, а вельмі адказную функцыю канферанс'е шматлікіх арлянскіх канцэртаў выконвае настаўніца Таіса Кацэйка і робіць гэта як прафесіяналіст.

У багатым і пастаянна растучым рэпертуары пераважаюць песні беларускія і рускія. Хор хоча выязджаць з канцэртамі ў гарады і вёскі. Хоча выязджаць вельмі часта — раз у тыдзень. Такую ставяць сабе задачу. Ці ўдасца? Але хочуць яны дарыць людзям нашу песню ў сваім сапраўды добрым выкананні. У хоры верныя сябры песні, як, напрыклад, Мікалай Лапух, які спявае ў хоры разам з жонкай Марыяй, як Марыя Адзіевіч — вельмі добрае сапрана і добры арганізатар. Найбольш пастаянных і верных харыстаў сярод працаўнікоў арлянскага ГСу, потым ідзе СКР. У Орлі хацелі б, каб настаўнікі больш уключаліся, падтрымлівалі добрую справу.

На пытанне, якога роду песні любіць хор спяваць, Саша сказаў: „Усе песні любім, але больш лірычныя, такія „да сэрца". Не былі б то беларусы! Каму з нас не ўсплыве на вочы сляза, калі пачуе песню „да сэрца"? Арлянскі змешаны хор варта запрашаць на выступленні ў кожную вёску і кожны горад.

**Вера Леўчук**

**Фота Яніны Чэрнякевіч**

(Працяг са стар. 3)

## АДГАЛОСКІ

добрым матэрыялам для выкарыстання ў штодзённай культурна-асветнай працы гурткоў БГКТ. Можна з яе выбраць гумар, вершы, гістарычныя весткі, цікавыя думкі і таямніцы. І выкарыстаць гэта ў праграме лекцыі ці вечара.

Дык не выкідайце адзінай крыніцы ведаў — „Нівы", а выкарыстайце яе як мага шырэй самі і перадайце дзецям!

**М. Купэль**

### ТОЛЬКІ АДНА ЛІТАРКА

І падумаць толькі, усяго адна літарка, памылкова падмененая, змяніла сэнс зместу прыведзенай у маім артыкуле („Мара пра выкарыстанне шанцаў". „Ніва" № 35 1.09.85).вытрымкі польскага тэксту. У апошнім радку вытрымкі надрукавана: „rozwija pryncypia ustrojowe", а павінна быць, згодна з арыгіналам: „rozbija pryncypia ustrojowe". Такое пераіначанне зместу робіць незразумелым прыведзенае выказванне. Таму вельмі прашу рэдакцыю аб'явіць вышэй пададзеную папраўку.

З павагай

**А. Маўчук.**

„Падмяніла" машыністка. Просім прабачэння. Рэдакцыя.

### У СЯМЕЙНЫМ ЖЫЦЦІ ПАТРЭБНА ПАРТНЁРСТВА

Алесь Барскі ў сваім артыкуле „Праміна нне", частка VI, нумар 29, піша аб праміна нні кахання. Паводле яго каханне гэта з'ява часовая і з часам ператвараецца ў нянавісць. Як прыклад падае маладую беларускую паэтэсу, якая толькі што выйшла замуж і свайго мужа назвала „князем Дзімітрам". А пасля двух гадоў супольнага жыцця, назвала яго „звычайнай свіннёю".

Я не згаджаюся з Барскім што сапраўднае каханне ператвараецца ў нянавісць, калі паміж людзьмі існуе сапраўднае каханне, то будзе яно існаваць вечна. Толькі ў сямейным жыцці апрача кахання, патрэбна яшчэ партнёрства. Бо што варта каханне, калі няма партнёрства? Калі каханне спалучае ў сабе ўсё патрэбнае ў сямейным жыцці — узаемаразуменне, патрэбу ўзаемадапамогі ў хатніх абавязках, вось тады каханне будзе вечнае. Але калі муж жонку кахае такім студэнцкім каханнем без усялякіх абавязкаў, то такое каханне можа хутка ператварыцца ў вялікую нянавісць. Я здзіўляюся, што Барскі, пражыўшы столькі год на гэтым цудоўным свеце, так па-студэнцку разумее каханне.

Помню як сёння ўрок фізікі ў сярэдняй школе, калі ў канцы ўрока наш прафесар часам любіў пагутарыць на розныя тэмы, не звязаныя з прадметам. Вось што ён аднойчы сказаў: калі ў сям'і ўсё ідзе як па масле, то бацькі большую ўвагу звяртаюць на дзяцей, больш прысвячаюць ім часу, а муж і жонка

(Працяг на стар. 5)



Міхась Байко аддаў пад скансен свой прыватны плян. Ен таксама актыўна ўдзельнічае ў разбудове скансена.

# Скансен над ракой Нараўкай

У другой палове 70-тых гадоў, паміж дарогай з Белавежы ў Пагарэльцы і ракой Нараўкай, непадалёку ад сяла Застава, пачаў нараджацца скансен. Зараз у ім знаходзяцца тры большыя аб'екты — два ветракі з міжваеннага перыяду і адна хата з канца XIX стаг., а таксама некалькі старых вулляў, зробленых у калодах, і адна борць. Мабыць, белавежскі музей пад голым небам зараз найменшы ў цэлай Еўропе, але толькі да часу.

Скансен паўстаў па ініцыятыве групы беларускіх энтузіястаў нацыянальнай матэрыяльнай культуры, якія наладзілі з гэтай мэтай творчую і вельмі арыгінальную супольку. Галоўным арганізатарам і „душой" скансена з'яўляецца др фізікі Анатоль Адзіевіч — працаўнік Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, чалавек надзвычай актыўны.



Праца пры складанні і адначасова рамонце меншага ветрака (першы з правага боку — др А. Адзіевіч).

# НЕ ВЫРАКАЦЦА ПРАЎДЫ

„Радзіма Літва! Як здароўе, так ты дарагая, як шмат цябе трэба цаніць, толькі той і спазнае, хто страціў цябе".

Сіняя далячынь палёў, раскінутых за частаколам Навагрудка, навейвала малому Адамку мора хвалюючых думак. Уся ваколіца, яе хараство, нявoлілa позірк, аж у грудзях замірала. Сляза круцілася ў воку, от так сабе — без прычыны... Тады ў хаце не хапала месца; выбастраны слых лавіў кожны шолах. Было чуваць, як з прамерзлай зямелькі, за хатай, выстрэльвала ўгару маладая траўка. Дыхаў шырокімі грудзьмі за вугламі вецер і жаўранак у паднябессі пераліваўся, як званочак да сонца. А дарогаю няслося знекуль скрыгатанне калёс, і хмараю шугаў гоман. Гэта „тутэйшыя" ішлі і ехалі на работу ў поле. Яны рагаталі і клікалі адзін аднаго, а ўсё на простай, мілай сэрцу беларускай мове. Роднай.

Давялося мне прачытаць у парыжскім эміграцыйным „Рускім Слове", якое да вайны выпісваў адзін радашковіцкі жыхар, ацэнку перакладу Ю. Тувімам паэзіі А. Пушкіна. Той ананімны для мяне сёння крытык выказаў тады погляд, быццам калі б так здарылася, што і А. Пушкін пісаў па-польску, то ўся творчая плынь яго нага верша, як дзве кроплі вады, напамінала б пераклад Тувіма.

Не ў меншай меры правільна, здаецца, меціць у сваім уступным слове і А. Абрэмбская-Яблонская адносна перакладу „Пана Тадэуша" на беларускую мову Браніславам Тарашкевічам. А. Яблонская піша: „Naturalność i codzienność języka (Тарашкевіча) oddaje wierność zamysłu Mickiewicza w jego poemacie, adresowanym do najszerszych rzesz czytelniczych. Nie każdy przekład „Pana Tadeusza" na inny język obcy potrafi temu sprostać".

І праўда, чытаючы кніжку ў беларускім перакладзе, у пэўным моманце губляеш арыентацыю ў тым, якая яе частка з'яўляецца арыгіналам. Столькі ж тут у змесце змешчана нашых сялянскіх зваротаў мовы, беларускай народнасці, бочання і сваркі, жыццёвай мітусні, што няма, здаецца, у чалавека такой моцы, каб не сказаць, што ўся паэзія Міцкевіча з'яўляецца не толькі ўласнасцю польскага народа, але не ў меншай меры і беларусаў, бо з іхніх думак зроджаная.

Ідучы далей за А. Абрэмбскай-Яблонскай, знаходзім у яе такі яшчэ сказ: Nie łatwo ustalić, jakim wydaniem „Pana Tadeusza" posługiwał się Taraszkiewicz w pracy nad przekładem. Nie mogło to być wydanie krytyczne, opracowane przez Stanisława Pigonia z roku 1929...".

Цікавая заўвага. Выпадковая памылка рэцэнзенткі адносна часу выдання той кніжкі, ці наўмысны абыход, каб паменшыць значэнне ўплыву бела-

Будаўнікі скансена большы з ветракоў прызначылі (прыводзячы яго найперш у поўны парадак) на месца летняга адпачынку для студэнтаў і навукоўцаў. Сядзіба гэтая ўзвышаецца над сцяной альховага гаю і маляўнічай далінай ракі Нараўкі. З яе прасціраецца вельмі прыгожы краявід. У гэтым жа ветраку можна таксама агледзець выстаўку здымкаў помнікаў старадаўнасці, каштоўную і тым, што некаторыя з рэкамендаваных аб'ектаў ужо поўнасцю знішчыліся. Меншы вятрак надаецца да размолу збожжа. Амаль стогадовая хата, пакрытая страхой з саломы, у адным з трох пакояў змесціць неўзабаве экспазіцыю старых драўляных прадметаў, якія былі калісь у карыстанні, як, напрыклад, ткацкі варштат, куфры, сельскагаспадарчыя прылады, кадлубкі, гліняны посуд.

Аб'екты былі перавезены ў Белавежу з ваколіц Бельска Падляшскага. Іх прыгажосць і арыгінальнасць сведчаць аб багацці матэрыяльнай культуры беларусаў з Беласточчыны.

Цэлы скансен агароджаны высокім парканам з... яловых галінаў. Ад ракі пасаджаны дрэвы.

Найбліжэйшыя планы творцаў скансена — пабудова лазні і сталярнага варштата, вядома, у старым стылі.

Трэба яшчэ дадаць, што „белавежская суполка" давяла да стварэння, у рамках атрымання для сябе статута, аддзела Таварыства апекі над помнікамі старадаўнасці — менавіта ў Белавежы!

Дзякуючы сваёй працавітасці, упартасці і вялікаму ўсведамленню мэты, група беларусаў трывала ўпісала ў пейзаж Белавежскай паляны арыгінальны, нават можна сказаць рамантычны, аб'ект.

**Тэрэса Валкавыцкая**
Фота **Войцеха Рынажэўскага**

## РАМЕСНЫ ЦЭХ У БЕЛЬСКУ

Ён праводзіць сваю дзейнасць у горадзе Бельску і ў гмінах Бранск, Вышкі, Орля і Боцькі. Да цэху розных рамяствоў, як паінфармаваў нас кіраўнік Станіслаў Жукоўскі, належыць 760 рамеснікаў усіх прафесій. Цяпер 157 вучняў навучаюцца пры цэху прафесіі аўтамеханіка. Маладыя не вельмі горнуцца цяпер да такіх прафесій, як кавальства, шавецтва, цырульніцтва для мужчын (цырульнікаў для жанчын хапае).

Цэх вядзе культурна-асветную дзейнасць. Тут дзейнічае вакальна-музычны калектыў і лялечны тэатр, якім кіруе Аня Грынявіцкая. Развіваецца і спорт. На такія мэты цэх прызнае грошы. За 470 тысяч зл. былі арганізаваны экскурсіі ў Кракаў, Лодзь, а таксама выезды на адпачынак і ў санаторыі. Адбылася вялікая цэхавая спартакіяда. Спаборніцтвы адбываліся па настольным тэнісе і шахматах.

Рамеснікаў цяжка затрымаць на вёсцы, дзе яны вельмі патрэбны. Але не ўсе ўцякаюць у гарады. Напрыклад, у вёсцы Відава працуюць маладыя рамеснікі. Юрка Себясевіч вырабляе чаранкі для рыдлёвак, Мікалай Белаказовіч — добры спецыяліст па самахадовай механіцы. Міхась Іванюк вырабляе кожны дзень 10-20 кілаграмаў цукерак, Юрка Раманюк тчэ кілімы, Уладзімір Самайлюк — вулканізатар.

**Андрэй Гаўрылюк**

## У АДРАС ГАНДЛЮ

У канцы жніўня я глядзеў тэлевізійную перадачу, па першай праграме, у якой гаварылася аб варшаўскай біржы (гелдзе) і слухаў інтэрв'ю з намеснікам прэзідэнта Варшавы на гэтую тэму. Тут я пачуў цікавую вестку, быццам ёсць у нас ужо ўдосталь рознага роду эмаліраванай пасуды (гаршкоў, каструляў і т.д.). Цікава, дзе яны? У крамах Гайнаўшчыны і Бельшчыны напэўна такой пасуды не ўбачым. Калі такі тавар тут пакажацца, дык чарга адразу выцягваецца на дзесяткі метраў.

Як мне вядома, калісьці была праблема з ацынкаванымі гаспадарчымі вёдрамі. У Кузаве іх было многа. І зараз стаяць у некалькіх кучах і ніхто іх не купляе. Вялікае здзіўленне аказалі нават працаўнікі гайнаўскага ВЗСР у час кантролю, а пані Марыся палічыла, што ёй пашчаслівілася і сама хуценька купіла вядро.

Адказваючы прэзідэнту Варшавы, можна было б сказаць так што, магчыма, эмаліраваная пасуда недзе ёсць у крамах, як недзе ў Кузаве ёсць ацынкаваныя вёдры. Толькі што на гэтае „недзе" наш гандаль? Ці ж будзем ганяцца па ўсёй краіне, каб недзе нешта купіць? Паклапаціцеся, паважаныя гандлёўцы, і высніце ўрэшце справу, хто вінаваты ў тым, што не заўсёды і не ўсюды ёсць эмаліраваная пасуда і ацынкаваныя вёдры. Нам у крамах тавараў трэба, а не ў тэлевізійных перадачах.

**(ус)**

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

давесці акрэсленыя ідэі да сэрцаў слухачоў. Гэты чалавек такіх шанцаў на ўспамянутым сходзе не выкарыстаў.

І яшчэ адзін прыклад. Калісьці на акадэмію, прысвечаную гадавіне Беларускай сялянска-работніцкай грамады, мы запрасілі ў Беласток члена арганізацыі, ужо пажылога вясковага дзядзьку. Хаця ўся ўрачыстасць вялася на беларускай мове, член Грамады — вясковы дзядзька, увайшоўшы на трыбуну, пачаў: „Kochana i droga młodzieży..." — і ў гэтай інтанацыі панёс акалесіцу. Акалесіцу таму, што ведаў ён польскую мову дрэнна і тое, што па-беларуску ён сказаў бы вельмі добра, атрымалася па-польску вельмі дрэнна. Калі я яго пасля спытаў, чаму ён не сказаў ад сэрца па-беларуску, дзядзька нават абурыўся: „Ну, як жа гэта, з трыбуны і па-беларуску? Ніколі! Мы ж жывем у Польшчы!"

Ну, вось і маеце класічныя праявы недарэчлівага блытання дзяржаўнасці і нацыянальнасці.

**Алесь Барскі**

(Працяг са стар. 4)




— гэта ўжо так, як бы звычайная з'ява ў сямейным жыцці. Гэта праўда! Бо што з таго, калі муж штодзённа гаворыць: кахаю цябе, дарагая, — а памагчы ў нічым не хоча. Прыдзе з працы і ляжа на канапу. Нават калі ёсць малыя дзеці, ён будзе ад дапамогі аднеквацца. Адна жанчына, якая выйшла замуж з вялікага кахання, так гаварыла аб сваім мужу: калі дзеці ноччу плачуць, то ён не чуе. Ніколі не пакалыша, хоць абое працуем. Але калі я закалышу малых і лягу ў ложак, ён хутка гэта пачуе.

Што можна сказаць аб такім мужчыне? Можна сказаць адно: толькі секс яму ў галаве, смачная яда і больш нічога. Ёсць такія мужчыны, што нічога ў хаце рабіць не хочуць. Жыў у адной вёсцы такі мужчына, які патрапіў з маладымі хлопцамі іграць у футбол або валейбол па цэлых днях, а жонка са старой бабуляй варочалі сена або жалі жыта. Якое ж тут каханне? Гэта проста выкарыстоўванне слабейшых мацнейшымі. Як можна назваць такога чалавека?

**Аўрора**




Ідзе падпіска друку на 1986 год. Не забудзь выпісаць „Ніву"! Гадавая падпісная цана на наш тыднёвік — 520 зл., паўгадавая — 260 зл., квартальная — 130 зл.

Падпіску ад установ і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў гарадах — сядзібах аддзелаў RSW „Ruch" — прымаюць выключна гэтыя ўстановы.

Ад індывідуальных падпісчыкаў і прадпрыемстваў з вёскі падпіску прымае пошта.

Індывідуальныя падпісчыкі з гарадоў, якія з'яўляюцца сядзібамі аддзелаў RSW, робяць падпіску ў паштовых установах на спецыяльных бланках (na konto RSW „Ruch").

рускай моўнасці на паэзію Міцкевіча? Вось ляжыць перада мною „Пан Тадэуш", выданы кракаўскай суполкай, друк В. Л. Анчыца, апрацаваны менавіта Станіславам Пігонем у 1925 годзе, а не ў 1929, як падае А. Яблонская.

Спомненае тут апрацаванне па-майстэрску тлумачыць Міцкевічаўскую творчасць. Пігонь, як выдатны тэарэтык і знаўца літаратуры, выказаў шмат асабістай інвенцыі ў раскрыцці падзеяў мінулага часу. Пры гэтым характарызуе яго строгая аб'ектыўнасць ацэнкі бачанага свету. Пігонь не цураецца праўды, а велізарную яе частку аддае ў карысць беларускага грамадства, як памятку таго, што прамінае з ветрам, але, запісанае гісторыяй, у народзе застаецца.

Можа некалькі слоў паўторым за ім. Паводле думкі Пігоня, Міцкевіч паказвае ў змесце „Пана Тадэуша" Польшчу (Карону) ў супольнасці з Літвой. Аднак тэрыторыя Польшчы знаходзіцца дзесьці ў межах Княства Варшаўскага, за Нёманам, у менш акрэсленым напрамку. З Польшчы ў Літву эмануе сімвал свабоды. Туды ў легіёны бяжыць шляхецкая моладзь і ўпотайкі ходзіць барнардын Чарвяк. Там фарміруюцца напалеонаўскія войскі і адтуль набліжаецца вайна — прадвеснік вызвалення Літвы і Польшчы. Міцкевіч з вялікай нецярплівасцю чакае дня перамогі, бо толькі тады зможа вярнуцца дахаты, у Навагрудак. Такая Польшча.

А тут, на Літве, усё жыве па-старому: людзі гутараць на сваёй, тутэйшай мове, маюць свае звычаі, абрады, святкаванні. Літва — зусім самастойная дзяржаўнасць! А прозвішчы: Падгайскія, Бергелі, Міцкевічы, Грэчкі, Мацкевічы, Корвічы — радавітая шляхта беларуска-польска-татарскага роду, засядзелая тут спрадвеку, як вераб'і ў каноплях. Яна зайздросна сцеражэ свае правы! Праўда, жывуць у суседнім засценку Дабжынскія — асадніцкая шляхта, наехаўшая сюды з Мазураў. Гэта ляхі, другое племя. У іх іншая мова. Дзіўны народ.

Станіслаў Пігонь не забыўся сказаць аб руінах замкаў у Навагрудку, у Міры. Узвялі тыя замкі нібыта літоўскія князі, але на зямлі беларускай на хвалу. Успамінае крытык Вялікага князя Вітаўта, што многія свае дакументы пісаў і датаваў у старым горадзе Гродна... Сябры Адама Мацкевіча: Зан, Дамэйка, Вітвіцкі, Ясінскі, сабраныя ў яго кватэры ў Парыжы, спявалі песні беларускія, літоўскія, украінскія.

Пігонь утрымлівае версію аб Міцкевічу, што той эміграваў добраахвотна, таму вяртанне на Навагрудчыну сталася немагчымым, рускі цар забараніў. З той пары сэрцам яго авалодала трывога, узнікла ў ім жальба па страчаным. Бруістымі ручаямі паплылі з думак поўныя артызму слёзы-песні, якія сваім мастацтвам перавысілі нават Давідавы псаломы.

Міцкевіч мог пасяліцца ў Познаншчыне, у Галіцыі, і там жыць. Але не паехаў туды, бо было гэта супраць яго зову крыві — вернасці сваёй Радзіме.

Чытаючы апрацаванне Пігоня, міжвольна пераконваешся, што першым вымаўленым словам у жыцці Міцкевіча было беларускае. Паступова аднак у паэта змяніліся погляды на знешні свет і занікла сімпатыя да моўнасці мясцовага насельніцтва. У пэўным моманце езуіцка-касцельная адукацыя адыгрывае вядучую ролю ў выхаванні юнака. Паэт імкнецца цяпер да ўзнёслых вяршынь духоўнай дасканаласці. Міцкевіч мяняе мову, але не выракаецца яе. Затое да канца застаецца верным сынам той зямелькі, адкуль узяў свой пачатак.

Непадважальнымі застаюцца і самі факты. Гэта на тэрыторыі

(Працяг на стар. 6)




Дарагое Сэрцайка! Здаецца нам, што ў тваім гародчыку даспявае дыскусія аб разводзе. Тэма сур'ёзная, а пачалі яе нявопытныя ідэалісты. Хочацца і нам уключыцца ў гэту важную размову і падзяліцца сваімі назіраннямі і ўласным вопытам.

Развод пераўтвараецца ў з'яву звычайную, не сарамлівую. „Свой дом — не чужы, з яго не ўцячэш" — так гаварылі раней. А цяпер многія глядзяць на свой дом, як на патэнцыяльна чужы: здарыцца сварка — і няма яго. Шлюб сёння спраўляецца па сумна простаму арыфметычнаму правілу: вяселле пішам, развод — у думцы.

Зразумела, мы не заклікаем забараніць разводы, але ўпэўнены, што маладажоны, беручы шлюб, павінны на час забыць, што скасаванне шлюбу — гэта паўсядзённая практыка. Ці магчымы тут парады, прыклады? Пажанілася маладая пара. Пайшлі, як звычайна, разлады, у якіх муж браў не менш гарачы ўдзел, чым жонка, але як толькі тэмпература кіпення падбіралася да крытычнай, муж гаварыў: „Як бы мы не сварыліся, мы з табою сустрэліся на ўсё жыццё, і нікуды нам адно без другога не дзецца". Паступова ён пераканаў у гэтым жонку — а таксама і сябе самога, — трагічныя скандалы канулі ў мінулае.

Не заклікаем да таго, што трэба жыць па старых звычаях і збіраць паціху крыўды, забыўшы аб прывабных — але заўсёды туманных — перспектывах новага шлюбу. Але, згадзіцеся, калі ламаць сцэны, можна і дом абваліць. Трэба змагацца за гэты дом, пакуль ён яшчэ ёсць, трэба шукаць унутраныя рэзервы свайго шчасця.

**Шукальнікі**

Ваша аргументацыя пераканаўчая. Калі факты ўзяты з вашага ўласнага жыцця — віншую з вынаходлівасцю ў вырашэнні сямейнага крызісу. Адносна дыскусіі — заўсёды „за".

**ч.в.а. Сэрцайка**




# ЛАДЫ

Гэты акт вясельнага спектакля ў некаторых мясцовасцях усходняй Беласточчыны называецца змовінамі.

Найчасцей адбываецца ён праз тыдзень пасля розглядаў, хаця можа быць праведзены і ў іншых тэрмінах. Лады мелі месца ў доме бацькоў маладой. Калі ў папярэдніх, ужо прадстаўленых вясельных актах прымала ўдзел невялікая колькасць асоб, дык у ладах удзельнічалі многія асобы як з боку маладой, так і маладога. Былі гэта бліжэйшыя або далейшыя сваякі, а таксама тыя з чужых, з якімі сем'і ўтрымоўвалі добрыя сяброўскія адносіны. Абавязкова павінны былі прысутнічаць бацькі маладога і маладой, бо якраз яны з'яўляліся галоўнымі гарантамі тых пагадненняў, якія наступалі ў часе ладоў. У ладах мог прымаць удзел кожны чалавек, нягледзячы на яго цывільны стан. З тым, што сямейных падбіралі бацькі, а несямейных — выбіралі маладая і малады. Былі гэта наогул тыя асобы, якія ў будучым вяселлі мелі выконваць такія ці іншыя функцыі.

Многія даследчыкі беларускага фальклору сцвярджаюць, што світа маладога, едучы на адной або некалькіх фурманках, старалася маланкава з крыкамі прансціся праз вёску і гурмам уварвацца на панадворак бацькоў дзяўчыны. Існаваў звычай закрывання перад госцьмі варотаў на панадворак і дзвярэй у хатах. Госці былі ў праве не толькі сілаю адчыніць вароты або дзверы, але нават і выламаць іх. Такая гвалтоўнасць сведчыла аб тым, што малады страшэнна прагне звязаць свой лёс з маладою і што па дарозе да гэтага гатоў ламаць любыя перашкоды. Звычай ламання варот, праўдападобна, пачаў на Беласточчыне занікаць ужо ў другой палове XIX стагоддзя. Аднак, яго сляды засталіся ў народнай памяці. Аб гэтым, між іншым, сведчаць словы маёй маці Пелагеі Баршчэўскай, якая паходзіла з вёскі Семяноўка:

„Я сама гэтага ні бачыла, але мне расказвалі мама, што тады, калі ехаў малады з бацькамі на лады да бацькоў маладое, то так як маланка перлі праз вёску. А пры гэтым і крычалі, і свісталі, і білі ў патэльню або ў якісь кадлубок. Перад імі бацькі маладое — хоць іх і ждалі, і ўсё было ўжэ на сталах прыгатўлено, — ні толькі закрывалі бронкі, але часто завязвалі вероўкамі або нават забівалі гоздзямі. Тое самэ рабілі з дзверамі ад хаты. А тые, як дарвалісе да бронкі, то так яе ламалі, што толькі шчэпкі лецелі. Часта нават з сакерамі прыезджалі, каб хучэй з бронкаю расправіцца. А дзверы ў хатах то з завесаў выважалі або якою калодаю выбівалі.

Калі я была маладая, то ні раз бачыла, як несуцца як чэрці з крыкамі і свістамі на тые лады, але каб ламалі платы або дзверы, то ні бачыла. Але бачыла, як затрымоўвалісе кала закрытай бронкі і велі торг з гаспадарамі. А гэты гаспадары адкрывалі бронку толькі тады, калі госці давалі окуп. От, дадут там або бутэльку гарэлкі або якіх там дваццаць капеек. Цэлага рубля, барані Бог, не давалі. Ого, рубель то былі велікі грошы.

Ну, а аб тым ламані бронок і дзверэй, то ўжэ, як я сказала, мама расказвалі. А яны ж не лгалі, бо і каму ж гэта было б патрэбнэ? Відно, было так, а стало па-другому. Божэ, Божэ, колькі на маём веку ўсяго пераменілосе! Хоць бы ў гэтым цэлым веселі, чы то можно параўнаць тое, што было калісь, з тым, што е цепер? Барані Божа! Усё па-другому. Чым усё гэто скончыцца?"

Няма сумненняў, што ў характары выступаючых на Беласточчыне ладоў, тых, аб якіх расказвала мая бабка і маці, праяўляліся рэлікты старажытных звычаяў: ухоплівання і куплі жонак. Зразумела, што ў XIX стагоддзі, не гаворачы аб XX, удзельнікі такіх практык не мелі ніякага ўяўлення аб сапраўдных крыніцах таго, што рабілі. І, мабыць, нікому з іх не прыходзіла ў галаву, што свішчучы і выламваючы вароты ці ўносячы окуп, прадаўжаюць практыкі старадаўняга ўхоплівання або куплі жонак.

**А. Баршчэўскі**

## Куток практычных ведаў

Яблыкі на зіму лепш за ўсё захоўваць у склепе, паклаўшы кожнае асобна на сухія чыстыя паліцы пладаножкай уніз.

*

Зімою бульбу трэба захоўваць у сухім склепе. Калі ж у склепе сыра, папярэдне спаліце ў ім адну палачку серы, а затым закрыйце склеп на суткі. Пасля гэтага ў ім можна захоўваць бульбу.

*

Пакрышыце дробна шкарлупінне сырых яек, заліце яго вадою і пакіньце пастаяць так на некалькі дзён. Гэтая вада будзе добрым угнаеннем для пакаёвых кветак восенню і зімою.

*

Цёмныя плямы ад гародніны, ягад, чарніла лёгка зняць, калі патрэце іх кавалачкам лімона або растворам лімоннай кіслаты.

*

Увосень моль асабліва актыўна размнажаецца. Калі вы заўважыце яе ў сябе ў шафе, паліце воцатам распалены стары прас або кавалак цэглы і паставце туды. У выпарэннях, якія запоўняць шафу, моль хутка загіне.

(Працяг са стар. 7)

# НЯСКОРАНЫЯ

І тут зноў цікаўнасць: татарская навала не пайшла спрадвечным шляхам паўз Прыпяць, праз заможныя гарады Оўруч, Тураў, Пінск, Бярэсце на Уладзімір-Валынскі. А гэта, відаць, таму, што ўсе беларускія княствы Тураўскай зямлі ўз'ядналіся з Вялікім княствам Літоўскім і Батый не наважыўся напасці на гэтую небяспечную нават для татара-мангольскай арды вайсковую сілу.

Няволячы, рабуючы і знішчаючы ўсё на сваім шляху, татары ўдарылі на Валынскае і Галіцкае княствы, здабылі і спустошылі іхнія сталіцы і іншыя значнейшыя гарады і рушылі ў Польшчу, Славакію, Венгрыю, Югаславію. Аднак там яны сустрэліся з зацятым адпорам і ў зацяжных аблогах ды крывавых бітвах (асабліва 9 красавіка пад Легніцай у Польшчы і 11 красавіка 1241 г. на рацэ Шаё ў Венгрыі) іхнія сілы пачалі вычэрпвацца, а тым часам барацьба паняволеных народаў узмацнялася. Відаць, таму ў пачатку 1242 г. галоўныя сілы татараў з аграмадным палонам ды незлічонымі багаццямі вярнуліся ў стэпы над Донам, Волгай і Уралам. Але адначасова татары намагаліся ўтрымаць пад сваёй уладай землі, праз якія прайшлі іхнія полчышчы. Такія краіны, як Польшча, Славакія, Венгрыя і іншыя, вызваліліся ад татарскага панавання адначасова з адыходам адтуль іхніх галоўных сілаў. Аднак землі Паўночна-Усходняй ды Паўднёва-Заходняй Русі засталіся на цэлыя стагоддзі ў татарскай няволі, і насельніцтва гэтых абшараў у суседнім Вялікім княстве Літоўскім бачыла адзінага збаўцу ад ненавіднага татарскага панавання. Людзі цішком уцякалі ў Вялікае княства Літоўскае, а яго вайсковыя сілы ўсё адважней і глыбей пранікалі на апанаваныя татарамі тэрыторыі.

Татарскія ханы адразу заўважылі ў Вялікім княстве Літоўскім небяспечнага для сябе ворага і некалькі разоў нападалі на яго. Пасля спомненага ўжо разгрому пад Смаленскам у 1238 годзе, вялікія татарскія сілы ўдарылі ў 1241 г. на Берасцейскае княства, якое, мабыць, пасля ўцёкаў князёў Данілы і Васілька Раманавічаў у Мазоўша далучылася да Вялікага княства Літоўскага. Наколькі цяжкія баі аб'яднаных сілаў берасцян і вайсковай дапамогі ім з боку паўночных суседзяў праходзілі на Сярэднім Пабужжы, найяскравей сведчыць запіс у Галіцка-Валынскім летапісе. У ім чытаем, што Даніла і Васілька, вяртаючыся з Мазоўша на Уладзімір ужо ўлетку 1241 года „пришедшу ко Берестью и не возмогоста ити в поле смрада ради множества избиеных". І так, сярод гэтага „множества избиеных" былі таксама воі з Драгічынскага, Гарадзенскага, Ваўкавыскага княстваў і іншых суседніх беларускіх земель, значыць: нашыя продкі. Гэта яны сваімі грудзьмі загарадзілі доступ татарскай навале на Пабужжа, Панароўе, Панямонне... Самі ляглі касцьмі але ворага на родную зямлю не пусцілі.

Таксама войскі Вялікага княства Літоўскага на чале з князем Міндоўгам паспяхова адбілі напады татараў пад Лідай у 1242 годзе і пад Крутагор'ем (сённяшні Дзяржынск, у 40 км на захад ад Мінска) у 1249 годзе.

І так, маладая і энергічная беларуская дзяржава — Вялікае княства Літоўскае — давала адпор татарскай навале, перад якой скарылася амаль уся Азія і паў-Еўропы.

**Мікола Гайдук**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Восень у Белавежскай пушчы. Фота Я. Чэрнякевіч.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Ніна Галіноўская

### ЧАМУ ВОЎК ЧЫТАЦЬ НЕ ЎМЕЕ

Воўк знайшоў сабе буквар.
Стаў чытаць.
— Які цяжар!
Слова вымавіць складана.
Мой язык непаслухмяны
Трэба ў кузні падкаваць,
А пасля буквар чытаць...
Як схадзіў у кузню воўк.
Дык амаль зусім замоўк.
Ён ад роспачы стаў выць.
... У кустах
буквар ляжыць.

Павел Кавалёў

# АГЛЕДЗІНЫ

У нашым садзе на самай высокай грушы прымацавана шпакоўня. Шост, на якім яна трымаецца, узвышаецца над усімі астатнімі дрэвамі. Шпакоўня мае наверсе, над сабою, моцную разгалінаваную дрэвіну.

Восенню гэта было, ці то ў канцы верасня, ці мо ў пачатку кастрычніка. На самую вышыню дрэва села сарока і пачала гойсаць з галіны на галіну. Відаць, не збіралася хутка адлятаць. Тым часам па камлі грушы падпялася, як гэта яна звычайна і робіць, хуценька-хуценька вавёрачка. Наверсе шпакоўні апынулася. Раз-другі зірнула праз акенца ў сярэдзіну шпакоўні. І зноў скокнула наверх.

І тут пачуўся голас сарокі. Ды такі рэзкі, на ўсё наваколле чутны: чы-т-ры-ык, чы-т-ры-ык. Вавёрачка азірнулася, і, ўбачыўшы траскатуху, нібы ў танцы павярнулася, галоўку падняла, пыску сваю выставіла ўгору, дзе на галіне была сарока. А тая скок, скок з галіны на галіну і насустрач вавёрачцы падалася. Вавёрачка ж спрытна скокнула на самую сярэдзіну даху шпакоўні і, нібы ўмацаваўшыся на ім, падняла пушысты хвост, скруціла яго ў кольца: дзень добры, маўляў, што вам, шаноўная, трэба?

Сарока скокнула на колькі

(Працяг на стар. 10)



Дзяўчаткі з Дашоў — Данка Казлоўская, Івона Манцюк і Ірына Евюк — удзельніцы конкурсаў беларускай песні і дэкламацыі. Фота Я. Чэрнякевіч.

Уладзімір Ліпскі

# ДЗЕД МАКСІМ

Урывак з аповесці

На трэці дзень Ірынага гасцявання неба пачало зацягвацца хмарамі.

Волька яшчэ з вечара казала, што заўтра будзе дождж. Яе прыкметай стала чорная Максімава карова. Як ідзе з пашы наперадзе чарады, так і ведай — будзе дождж.

Іру дождж заспеў у лесе. Ды яна не думала вяртацца дамоў. Завязала на галаву цэлафанавую хусцінку і працягвала шукаць грыбы. Што можа быць прыемней: памыцца цёплым дожджыкам і назбіраць кош грыбоў!

Было такое адчуванне, што Іра не проста прыехала да сястры ў госці. Яна вярнулася ў краіну свайго дзяцінства. Кожны дзень бывала ў бацькоўскай хаце. Паліла печ, сушыла, марынавала грыбы.

Яна выйшла на ўскраек лесу. Адтуль бачна была ўся вёска. Сорак хат у вербах і яблынях. Вакол вёскі зялёным пярсцёнкам разлягліся палеткі, сенажаці. А далей — дубровы, бары.

Іра прыгадала дзеда Максіма і зусім забылася пра дождж і грыбы.

Яна зайшла да яго надвячоркам. Стары сядзеў на лаве. На пажоўклых, сухіх руках — сінія жылы. Барада і нос завастрыліся.

Дзед быў у кашулі ў клетку з моднымі нагруднымі кішэнямі, у джынсах. Відаць, гэту апратку падкінулі яму гарадскія ўнукі. Стары не цураўся такіх падарункаў, не грэбаваў імі. Ён быў малайцаватым дзедам: з гадамі яго не пакідала, як ён сам казаў, маладосць-дурносць. Не цураўся бясед, мог паджартаваць яшчэ з каго-небудзь маладзейшага.

„А каб ты, Максім, жыў сто гадоў“, — смеючыся, казалі вяскоўцы.

— А я і буду жыць сто гадоў і два тыдні, — заўсёды адказваў дзед.

— Навошта ж табе яшчэ тыя два тыдні?

— А на роздум. Ці варта паміраць?

Іра помніла дзеда Максіма і як знахара. Аднойчы выскачылі ў яе на верхняй губе болькі. Здавалася, няма ад іх ніякага паратунку. Маці забожкала, пабегла да Максіма.

Прычыкільгаў ён да іх. Абглёдзеў Ірын твар і кажа: „Зараз вылечым“.

Іра легла на ложак. Дзед Максім накрыў твар хусцінкай, на яе паклаў дубовае лісце. Потым зноў нейкую анучку. І пачаў запальваць тоненькія пасмачкі кудзелі. Паліць і мармыча нешта. Разабраць нічога нельга.

Неўзабаве дзед паўтарыў свае лекі. І, праўда, пайшло на папраўку.

З тае пары дзед стаптаў не адну пару чобатаў. Але застаўся ў Ірыным уяўленні такім жа рухавым і загадкавым, як быў. Ёй даўно карцела пагаварыць з ім, але ўсё не выпадала. Цяпер у яе і час быў, і жаданне.

(Працяг на стар. 10)

## РОБІМ САМІ ЦАЦКІ




мал. 1.



мал. 2.



мал. 3.



мал. 4.

### КАНВЕРТ

Сёння навучымся рабіць патрэбную рэч — сапраўдны канверт, у якім можна выслаць пісьмо.

Канверт робім з гладкага, чыстага, даволі моцнага лістка паперы размерам 280x200 міліметраў. Па краях такога прамавугольніка значым кропкамі паказаныя на малюнку 1. лініі (усе размеры пададзены ў міліметрах). Пры дапамозе лінейкі адрысоўваем лёгенька гэтыя лініі, як на мал. 2. На атрыманай сетцы адрысоўваем разгорнуты канверт, як на мал. 3. Вырэзваем ножанкамі разгорнуты канверт і складваем яго паводле малюнка 4. Так складзены канверт склейваем.

Каб канверт аказаўся прыгожы і эстэтычны, выконваць усё трэба вельмі старанна і дакладна. У такім канверце можаце прыслаць пісьмо і да „Зоркі".

**Ваня Майстар**

(Працяг са стар. 9)

### АГЛЕДЗІНЫ

сантыметраў насустрач, таксама дала кругаля, затрымалася на месцы, на вавёрачку глядзіць, вачэй не зводзіць. Відаць, на бясстрашша вавёрачкі яна нічым адказаць не магла, але і месца такое вабнае ўступаць не хацела.

Вавёрачка зноў скокнула з даху шпакоўні да акенца. Зноў заглянула ў яго і гэтак жа смела гайсанула на ранейшае месца, нават запынілася на крайку даху, бліжэй да дрэвіны, з галіны якой не злятала сарока. Тая толькі тарганулася, раз-другі крутанулася на месцы, але не адступала, вачэй ад жвавага, жоўтага камячка не адварочвала.

Колькі хвілін сядзелі яны абедзве, пільна гледзячы адна на адну, але нападаць так ніводная і не адважылася.

Я ж быў зачараваны такою цікавай сустрэчай у нашым садку. Прыхінуўшыся да акна, пільна сачыў, што будзе далей. І падумаў: спадабалася наша шпакоўня абедзвюм, хочуць, відаць, на зіму заняць яе сабе пад жытло.

А вавёрачка і сарока, пастаяўшы адна супроць адной колькі хвілін, адначасова кінуліся ў розныя бакі. Вавёрачка імгненна пераляцела на суседняе дрэва і там на галіне затрымалася, але павярнула галоўку ў бок шпакоўні. Сарока ж, колькі разоў чырыкнуўшы, паляцела кудысьці ўбок.

Так і не ведаю, каму больш спадабаўся дамок нашых шпакоў і хто з іх зойме яго на зімовы час. Агледзіны ж адбыліся.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 346507, Ростовская обл., г. Шахты, пер. Мельничный, 57, Хорошевской Ирине. 13 год.

* ✲ *

СССР, 349318, Ворошиловградская обл., г. Красный Луч, микрорайон 3, дом 45, кв. 2. Романовой Оксане. 14 год.

* ✲ *

СССР, 346554, Ростовская обл., г. Шахты, посёлок Таловый, ул. Ленина, 13-20. Маёровой Наташе. 14 год.

* ✲ *

СССР, 357002, Ставропольский край, Кочубеевский район, ст. Барсуковская, ул. Поменского, д. 66. Фатулаева Аня. 7 клас.

* ✲ *

БССР, 211440, Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Янкі Купалы, д. 14. кв. 87. Ксяндзовай Тані. 5 клас.

* ✲ *

СССР, 346554, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Таловый, ул. Ленина, 13, кв. 30. Молчановой Наташе. 8 клас.

* ✲ *

СССР, 346480, Ростовская обл., ст. Каменоломни, ул. Калинина, 103. Горской Оле. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

✱ ✱ ✱

СССР, г. Ростов-на-Дону, пос. Чкалова, ул. Сахалинская, 53. Емельяненко Наташе, 12 год.

(Працяг са стар. 9)

### ДЗЕД МАКСІМ

Іра адчыніла рыпучую брамку і ступіла ў двор дзеда Максіма.

Той адразу ўтаропіўся на незнаёмку і, не пазнаўшы яшчэ хто ідзе, пачаў запрашаць:

— Праходзьце, праходзьце...

— Добры дзень, дзядуля, — прывіталася Іра і адчула, як захвалявалася. Дзед Максім быў сябрам яе бацькі, яго равеснікам.

— А-а-а, Лаўрэнава дачка! — узрадаваўся дзед, і твар яго пасвятлеў. — Малайчына, што зайшла, — сказаў стары Максім, запрашаючы яе прысесці побач з ім на лаве.

Дзедавы вочы пачырванелі, павільгатнелі. Старыя, як малыя, хутка расчульваюцца. Любяць ласку і ўвагу.

— А вы добра яшчэ выглядаеце, — у адказ на дзедава запрашэнне, сказала Іра.

— Скрыпучае дрэва доўга стаіць, — знайшоўся што адказаць дзед Максім, памаўчаў крыху і дадаў: — Але ж, мая любка, чалавек жывучы.

З задняй кішэні джынсаў дзед Максім дастаў жоўты партсігар, на якім былі выціснуты касмічная ракета і зоркі, спакваля адкрыў яго, узяў адтуль папяросіну, прыпаліў яе, пыхнуў дымам.

— Дак вот, скажу я табе, дачухна, што такім, як я і твой бацька Лаўрэн, трэба помнікі ставіць.

— Героям яшчэ ўсім не пастаўлены, — сказала Іра.

— А мы што, не героі? — дзед Максім нават зазлаваў. — Усё жыццё ў полі прапрацавалі. У вайну як маглі дапамагалі... Усяго, што медалёў не маем, ужо і не героі?

— Папрацавалі то вы ўдосталь.

— У-уга-а!.. — махнуў дзед рукою і дастаў з рота папяросу, каб не перашкаджала расказваць... — Падлічы, мая любка, колькі мы за столькі год сенакосу выкасілі, па колькі разоў зямлю перааралі... Бяда толькі, што ўся наша работа, як стары мех, пакуль адну дзірку залатаеш, дзве прадзяруцца...

Дзед Максім прытушыў папяросу. Відно, партсігар насіў для формы. Бо курыў без зацяжак. Так, для паху. І расказваў далей не спяшаючыся, з прыпынкам, як гэта робяць усе бывалыя людзі, якім ёсць што сказаць, і якія жадаюць, каб іхнія словы помнілі.

— Былі ўжо узяліся ў моц, дак на табе, германец-нягоднік убіўся. Свае парадкі пачаў уводзіць ды нервы людскія матаць на кулак... У-ух, нячыстая сіла навалілася была на нас!.. А як адступаў гад, дак усё начыста спаліў, каб яго на тым свеце палілі.

Дзед Максім пакашляў, прыжмурыў вочы.

— У горы жылі, а й не гаравалі. Елі хлеб з вадою, а хвост пісталетам трымалі. Радзіва не было, дак самі спявалі. Вольная зямелька была нам, як змораnаму пасцелька... Э-эх, а цяперака і хораша ходзяць, і смачна ядуць, а весяліцца не ўмеюць...

Іра маўчала, думала пра дзеда Максіма. Два сыны яго надзея і ўцеха, загінулі ў вайну. Жонку Куліну гадоў пяць назад пахаваў. „Якім жа моцным жыццялюбам трэба быць, — думала Іра пра дзеда Максіма, — каб перажыць гора за горам і застацца чалавекам, нават ганіць людзей, што не ўмеюць весяліцца".

— Ага-а-а, — працяжна сказаў, як уздыхнуў, дзед Максім і зноў прысмаліў папяросіну. — Далей-болей пачалі разжывацца... От я табе зараз нештачка пакажу.

Дзед борздзенька падхапіўся і патупаў у хату.

— О, знайшоў! — выйшаў дзед Максім на ганак. У руках ён трымаў збуцвелую газетку. — Тут пра нас з Лаўрэнам напісана. Чытай.

— А дзе чытаць? — спытала Іра.

— Во тутака, — дзед Максім тыцнуў пальцам у газетку. „Адбылася раённая нарада..."

— А дзе ж тут пра вас?! — здзівілася Іра.

— А мы з Лаўрэнам былі на тым з'ездзе. Чытай.

Іра з хваляваннем чытала пра нараду, якая адбылася яшчэ ў 1946 годзе. Газета ўзнаўляла даўно забытыя падзеі. Дзед Максім сядзеў задаволены, нават не заўважыў на сабе позірк Іры.

„...Слова папрасіў Лаўрэн Рабянок..."

Іра закончыла чытаць, ласкава паглядзела дзеду ў вочы.

Дзед падняўся з лавы, каб размяцца. Выпрастаўся, прайшоўся па двары.

— Змарыў я цябе сваімі размовамі. Хадзі лепей малака табе налью, га?

Дзед Максім пайшоў у хату, вынес гладыш малака, булку, цукерак, два кубкі і табурэтку.

Да позняга заседзелася Іра ў дзеда. Нагаварыліся ўдосталь, пакуль Волька не прыйшла шукаць яе.

...Які ўжо час Іра стаяла на ўскрайку лесу і пазірала на сваю родную вёску. Вунь там, за кучаравымі вербамі, у хаце пад шыферным дахам жыве дзед Максім. Іра да дробязей прыгадвала ўчарашняе гасцяванне ў яго, і ёй рабілася радасна. А са сваім бацькам так і не знайшла часу нагаварыцца.

„Прабач, татка", — уздыхнула Іра, і хоць дождж даўно сціх, збіраць грыбы прапала ахвота.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




**Падзялі гэтую фігуру з дваццацю лічбамі на чатыры аднолькавыя часткі, каб сума лікаў у кожнай частцы была роўнай 50.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

# ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

### КАСІЎ ЯСЬ КАНЮШЫНУ

(З рэпертуару „Песняроў")

Касіў Ясь канюшыну,
Пaглядаў на дзяўчыну.

А дзяўчына жыта жала
Ды на Яся пaглядала.

Ці ты Ясь, ці ты не,
Спадабаўся ты мне.

Кінуў Яська касіць,
Пачаў мамку прасіць:

— Люба мамка мая,
Ажані ж ты мяне.

— Дык бяры ж Станіславу,
Каб сядзела на ўсю лаву.

— Станіславу не хачу,
Бо на лаву не ўсаджу.

— Дык бяры ж ты Яніну,
Працавітую дзяўчыну.

Касіў Ясь канюшыну,
Пaглядаў на дзяўчыну...





Рэўнасць.

# НІЎКА




З чаго смяюцца суседзі.

### ПЕРСПЕКТЫЎНА

Перспектыўнага футбаліста ўгаворваюць перайсці ў іншую дружыну:

— Вацак, у нас ты будзеш хадзіць на працу толькі па зарплату!

— Хадзіць? А ці ў мяне не будзе машыны?

### ЗАДРЫПВЯРХІ

Верх абачлівасці: хадзіць на руках, каб на галаву не звалілася чарапіца.

Верх спачування: прывязваць да галінак дрэваў апаўшае лісцё.

Верх рассеянасці: загубіўшыся ў натоўпе, адправіцца ў міліцыю, каб паведаміць свае прыкметы.

### НАШЫ ДЗЕЦІ

Маленькі Міколка быў з бацькам у цырку. Калі яны вярнуліся, маці пачала распытваць, як яму спадабалася прадстаўленне.

— Усё было вельмі здорава, вось толькі дзядзьку, які кідаў нажы ў дзяўчыну, не шанцавала.

— Што значыць не шанцавала?

— Ён усё прамахваўся!





Усім бы так жыць, як ён існуе!

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Еўрапейскі турыст хацеў купіць у адной з крамак Токіо „маланку" для курткі. Ён спрабаваў вытлумачыць жэстамі, як выглядае „маланка", але прадаўшчыца доўга не магла зразумець, што ён хоча. Урэшце да яе дайшло. Яна ўрачыста выдажыла на прылавак меч для харакіры.

✻

Серансэн прыйшоў у паліцыю атрымліваць пашпарт.

— Месца нараджэння? — спытаў чыноўнік.

— Парыж.

— Значыць, вы француз?

— Не, мае бацькі датчане.

— Дык вы ж нарадзіліся ўва Францыі і, такім чынам, вы павінны быць французам!

— Паслухайце! Мая сука нядаўна ашчанілася ў канюшні, што ж, таму я павінен яе шчанят называць жарабятамі?

### МІНІВЕРШЫ

#### УСЁ ПРОСТА

**— Ты не бойся, галубок,**
**Нам цяпер у гэты бок. —**
**Цягне Лена Макса**
**Да будынка ЗАГСа. —**
**Гэта ж проста, дарагі,**
**Месяц пражывём, другі.**
**А як не ўжывёмся,**
**Тут жа й развядзёмся.**

**Уладзімір Мацвеенка**

### З „Весніка Задрыпоніі"

#### ПАДЗЕІ

З вывіхам правага локцевага сустава, пашкоджаннем левай кісці і перабітымі пальцамі былі дастаўлены ў бальніцу П. Слесарук, які спрабаваў учора ўзяць сябе ў рукі.

#### БОНТОН

Стрэсваць попел і гасіць акуркі ў талерках з ежай не абавязкова. У памяшканні, дзе вы знаходзіцеся, заўсёды ёсць падлога, кветкавыя гаршкі ці ў крайнім выпадку адчыненая фортачка.



Любіць — не любіць...





Прадбачлівасць.

# КУРЁЗЫ

### У ПАГОНІ ЗА ПРЫВІДАМ

Нямала італьянцаў пакуюць чамаданы і адпраўляюцца за межы сваёй краіны. Але штурхае іх да гэтага не любоў да падарожжаў, а надзея на лепшую долю. Бо лічыцца, што ў іншых краінах шчасце не такое дэфіцытнае, як у Італіі...

Падчас адной дэманстрацыі беспрацоўных у Рыме тамашні чатырнаццацігадовы хлопец нёс плакат, на якім было напісана: „Мой дзядуля стаў беспрацоўным у Злучаных Штатах, мой бацька стаў беспрацоўным у Бельгіі, мой дзядзька — у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі. А дзе я стану беспрацоўным, я яшчэ не ведаю".

### НЕЗАДАВОЛЕНЫ УЗЛОМШЧЫК

У Мюнхене судзілі аднаго маладога ўзломшчыка. Узважылі ўсе суддзі і далі яму шаснаццаць месяцаў турмы. Здавалася б, цешся хлопча, што лёгка абышлося. А хлопец ашаламіў прысутную ў зале суда публіку і самых суддзяў: пачаў дамагацца для сябе большага тэрміну. Справа ў тым, што ён хацеў авалодаць у турэмнай школе прафесіяй зваршчыка, а курс навучання — 24 месяцы.




**Таму, хто танцуе пад чужую дудку, даводзіцца і спяваць не сваім голасам.**